ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 11 (158) 15 - 21 сакавіка 1996 г. Кошт свабодны

ЧЫМ СКОНЧЫЦЦА НОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ? - ст. 2.

"НАСИЛЬНО МИЛ НЕ БУДЕШЬ" - ст. 4.

ДЗЬВЕ ФРАЎ ПІЛІ КАВУ, А НАМ - СЬВЯТА - ст. 8

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ДЗЕНЬ ЗГВАЛЧАНАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

**Успамінаў пра тое, што 15 сакавіка ўсенароднае сьвята - Дзень Канстытуцыі, - у афіцыйных сродках масавай інфармацыі няма. Маўчаць. І ёсьць пра што маўчаць.**

Які артыкул не прачытаеш, ураженьне такое, што штосьці ня так. Ці то мы, «народ Беларусі» і нашае «начальства», па-рознаму разумеем сэнс, здавалася б, агульнавядомых слоў. Ці то мы жывем з імі па розных Канстытуцыях: мы - па той, што прыняў Вярхоўны Савет 2 гады назад, а «начальства» - па той, якую яму патаемна ад усіх «спусьціў» прэзідэнт. Інакш з чаго б гэта ён рабіў бы такія «праколы», калі амаль усе яго ўказы і дзеяньні аб'яўляюцца неканстытуцыйнымі?

Многія з нас і дагэтуль паблажліва глядзяць на выбрыкі «усенароднаабранага». Маўляў, парушыў Канстытуцыю, што з таго? А дарма, бо парушае наш прэзідэнт дакумант, пры выкананьні якога (а гэта яго службовы абавязак) нам усім жылося б лепш і спакойней. Калі ў Вас няма працы, калі Вам своечасова ня выплацілі заробленых Вамі грошай, то ведайце, што ў гэтых і шмат яшчэ ў якіх выпадках парушаецца Канстытуцыя - Асноўны Закон.

Калі чалавек, якому аказаны ДАВЕР арганізаваць наша з Вамі жыцьцё па Асноўнаму Закону сьвядома ці несьвядома парушае гэты Закон, альбо ня ўмее наладзіць наша жыцьцё так, як запісана ў гэтым Законе, - такіх людзей трэба гнаць. Паганай мятлой. І чым хутчэй гэта адбудзецца, тым будзе лепш. Для Вас, Вашых блізкіх, Вашых родных...

Падыміце ў гэты дзень «хрушчоўскую» шклянку за Вашыя падманутыя надзеі і спадзяваньні. Памяніце згвалчаную Лукашэнкам Канстытуцыю. У адрозьненьне ад яго і ягоных «вертыкальных» (былой партнаменклатуры), у Вас ёсьць інтарэс шанаваць гэты дакумант.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**

## ПАЗЫЧЫЛІ... ЗА КОШТ ДЗЯЦЕЙ!

На гарадзенскім аб'яднаньні надомнай працы людзі нарэшце атрымалі зарплату, якую ім не плацілі з кастрычніка мінулага году. Беспрацэнтную ссуду ў 350 мільёнаў рублёў выдзяліў прадпрыемству з сродкаў пазабюджэтнага фонду на ўтрыманьне дзіцячых дашкольных установаў гарадзенскі выканкам. Да пачатку лета аб'яднаньне павінна разьлічыцца з гэтай пазыкай.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ПАЗЫЧАНЫ ХЛЕБ ЕШ ДЫ АГЛЯДАЙСЯ

За атрыманьнем банкаўскага крэдыту для пагашэньня запазыкі па заработнай плаце зьвярнуліся 222 прамысловыя прадпрыемствы і ўстановы вобласьці! Толькі лічаныя адзінкі змаглі разьлічыцца з рабочымі самі. Сума атрыманых крэдытаў склала каля 50 мільярдаў рублёў. На дзень выхаду гэтага нумару «ПАГОНІ» запазычаная за мінулы год і студзень 1996 году зарплата выплачана паўсюдна.

Калі ж будзе выплачана зарплата за люты — невядома. Толькі ўстановы народнай адукацыі вобласьці недаатрымалі ад дзяржавы ў лютым на зарплату 25 мільярдаў.

**В.ДРЭМА.**

## ЗАЯВА Грамадзкага Нацыянальнага Аргкамітэту сьвяткаваньня 78-й гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

25 сакавіка спаўняецца 78 гадоў з таго вялікага, вызначальнага, дарагога кожнаму беларусу дня, калі ў далёкім 1918 годзе ў цяжкіх абставінах Першай сусьветнай вайны была абвешчана незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Закончыўся адзін этап *нацыянальна-вызвольнага руху - змаганьне* за аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. Пачалася стваральная праца над будаўніцтвам новай беларускай дзяржавы.

Але зьбег міжнародных абставінаў склаўся вельмі неспрыяльна для Беларусі. На ўсходзе і захадзе высьпявалі жорсткія і варожыя беларускай незалежнасьці таталітарныя рэжымы. Праз дзевяць месяцаў пасьля акту 25 Сакавіка Беларусь была акупаваная бальшавікамі. Аднак гэты акт усё ж прымусіў іх абвясьціць БССР. У 1921 годзе Беларусь была падзеленая паміж Расеяй і Польшчай. Наш народ перажыў генацыд, панёс велізарныя людзкія, духоўныя і тэрытарыяльныя страты. Але справа 25 Сакавіка не памерла, бо нельга жыць без свабоды. Гэты дзень адчыніў народу вольны беларускі шлях.

З ~~асаблівым энтузіязмам~~ адзначала беларуская свабодная грамадзкасьць гэтую натхняльную дату пасьля 25 жніўня 1991 году, калі, ідучы да свабоды ў рэчышчы агульных намаганьняў усіх народаў былога СССР, Беларусь аднавіла сваю незалежнасьць. Акт 25 Сакавіка - гэта ня толькі слаўная гістарычная падзея, але і пуцяводная зорка на шляху будаўніцтва і ўмацаваньня беларускай дзяржавы, грунт у стваральнай працы ўсяго беларускага народу.

Мы, усе беларусы, усе грамадзяне нашай краіны, будзем заўсёды шанаваць гэтую вялікую дату. Асабліва важна гэта цяпер, калі над нашай краінай зноў згусьціліся хмары небясьпекі, узьнікла пагроза нашай незалежнасьці, культуры, нацыянальнаму існаваньню.

Аргкамітэт заклікае грамадзянаў Беларусі, грамадзкія, палітычныя, дзяржаўныя арганізацыі ўрачыста і з годнасьцю адзначыць 78-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. У шэрагу акцыяў плянуецца правядзеньне ў нядзелю 24 сакавіка масавага шэсьця і мітынгу ў Менску ў гонар акта 25 Сакавіка і ў абарону Канстытуцыі, законнасьці і сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусі. Шэсьце пачнецца а 12-й гадзіне ад плошчы Незалежнасьці да сквера і помніка Янку Купалу і потым да помніка Максіму Багдановічу.

Грамадзкі Нацыянальны Аргкамітэт віншуе ўсіх грамадзянаў Беларусі са слаўнай датай незалежнасьці БНР і 78-мі ўгодкамі вялікай падзеі. Зычым свабоды, дабра і натхненьня ўсім людзям нашай краіны. Жыве Беларусь!

**В.Быкаў (старшыня), Р.Барадулін, А.Грыцкевіч, М.Біч, Г.Карпенка, М.Грыб, А.Дабравольскі, С.Багданкевіч, П.Знавец, І.Сярэдзіч, Л.Баршчэўскі, І.Гермянчук, В.Мазец, Ю.Беленькі, Ю.Хадыка, В.Вячорка, В.Асташынскі, А.Бяляцкі, В.Сіўчык, А.Марачкін, С.Гусак, М.Купава, М.Анцыповіч, І.Саверчанка, С.Навумчык, М.Чарняўскі, З.Пазьняк.**

## ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ РЭФОРМА АПК БЕЛАРУСІ?

**Адказ на гэтае пытаньне ў сёняшняй сітуацыі зусім ня просты. Калі б рэформы пачаліся ў 1991 годзе, дык іх тэмпы былі б зусім іншымі, чым зараз. У той час аграпрамысловы комплекс Беларусі ўяўляў сабой структуру з моцным вытворчым патэнцыялам. Толькі грамадзкі сектар сельскай гаспадаркі рэспублікі выробляў у разьліку на душу насельніцтва 720 кг малака (другі паказчык у сьвеце), 116 кг мяса (трэцяе месца пасьля ЗША і Венгрыі), больш 800 кг зерня, звыш 1100 кг бульбы. Сярэдні надой малака ад адной каровы складаў 3218 кг, сярэднесутачныя прыбаўленьні ў вазе жывёлы і сьвіней на вырошчваньні і адкорме былі 496 і 388 адпаведна. Ураджайнасьць зернавых дасягнула 27 ц/га, бульбы - 173 ц/га, ільновалакна - 3,5 ц/га, цукровых буракоў - 320 ц/га. Значная частка прадукцыі вывозілася за межы рэспублікі.**

Дастаткова моцнай была энэргаўзброенасьць. У калгасах і саўгасах налічвалася 74 тысячы грузавых аўтамабіляў, 135 тысяч трактароў, 30,3 тысяч зернаўборачных камбайнаў. Натуральная ўрадлівасьць глебы амаль паўсюль мела станоўчы баланс гумусу. Рэформы АПК у тым стане пайшлі б менш хварабліва, з меншымі стратамі. Аднак урад пры патуральніцтве Вярхоўнага Савету 12 скліканьня папросту «заболтал» іх, 5 гадоў былі страчаныя незваротна. За гэты час сельская гаспадарка, як і ўся эканоміка, па сутнасьці падверглася сакрушальнаму разгрому.

Вытворчасьць мяса ўпала амаль у тры разы, малака - больш чым у два разы, зерня - на адну трэцюю, картофеля - ў два з большым разы і г.д. Пагоршылася тэхнічная забясьпечанасьць гаспадаркі. Колькасьць дзейных трактараў і грузавых аўтамабіляў у 1995 годзе складала каля 70% да 1990 году, зерневых камбайнаў засталася 1/3. Больш чым у 20 раёнах стаў адмоўным баланс гумусу. Працягваюцца страты пагалоўя ўсіх відаў жывёлы. Упершыню за апошнія 25 гадоў спажываньне ўласнай прадукцыі не пакрывае патрэбных нормаў. Так, у 1995 годзе спажываньне мяса склала каля 40 кг ці 60% ад нормы, малака - 240 кг ці 72% ад нормы, хлеба - каля 75%. Амаль 1/3 калгасаў ці дзяржгасаў ці збанкрутавала, ці знаходзіцца на мяжы банкруцтва.

Нават у гэтых умовах, напярэдадні поўнага краху, кіраўніцтва рэспублікі не прымае практычна ніякіх мераў па ўратаваньню галоўнай галіны эканомікі. Распрацаваную групай заангажаваных Кабінетам Міністраў і Мінсельгаспрамам навукоўцаў, праграму рэфармаваньня АПК нават з вялікай нацяжкай нельга прызнаць праграмай. Яна ня мае практычна ніякай канцэпцыі, акрамя блытаных пажаданьняў. Але затое зьмяшчае такія опусы, якім месца ў кнізе рэкордаў Гінэса. Напрыклад, аўтары прызнаюць прыватную ўласнасьць толькі на тую зямлю, на якой стаяць збудаваньні, якія знаходзяцца ў прыватнай уласнасьці.

Аналагічны шэдэўр выдаецца ў выглядзе калектыўна-долевай уласнасьці як разнавіднасьці прыватнай. Гэта ўвогуле, боб з гарохам і мякінай. Дадзенае паняцьце ня мае адносінаў да ўласнасьці. У ім зьмешаны форма карыстаньня ўласнасьці (калектыўная) і форма разьмеркаваньня даходу (долевая).

Увогуле, складаеца ўражаньне, што аўтары праграмы самі не заўсёды разумеюць тое, пра што пішуць. У той час у мэтах вывучэньня і абагульненьня досьведу правядзеньня аграрнай рэформы ў краінах Усходняй Эўропы, Грамадзкі навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская персьпектыва» правёў 14-15 сьнежня 1995 году навуковую канферэнцыю на тэму «Праблемы рыначных рэформаў сельскай гаспадаркі ў краінах Усходняй Эўропы». У канферэнцыі прынялі ўдзел доктар эканамічных навук, прафесар Э.Сагайдак (Агульнарасейскі НДІ эканомікі сельскай гаспадаркі, г.Масква), доктар эканамічных навук, прафесар К.Пурвінскас (Старшыня праўленьня сялянскай партыі, Летува), прафесар М.Там (Эстонскі сельскагаспадарчы універсітэт, г.Тарту), У.Ватсел і В.Аасмас (Камітэт па зямельнай рэформе Эстоніі), акадэмік І.Уньціле (Малдавія) і Ю.Тыцу (Камітэт па зямельнай рэформе Малдавіі), В.Сапко і Г.Пархоменка (Камітэт па зямельных рэформах Украіны), доктар эканамічных навук Б.Бучкова і кандыдат эканамічных навук Я.Пятэрова (Чэшскі аграрны універсітэт, Прага), прафесар Вішноўскі і доктар Я.Мургач (Сельскагаспадарчы інстытут, г.Нітра, Славенія), прафесар Т.Дыбовскі (Інтстытут эканамічных праблем, Г.Варшава), намесьнік міністра сельскай гаспадаркі ва ўрадзе Т.Мазавецкага, доктар А.Потак (Аграрная акадэмія Польшчы). З беларускага боку ўдзельнічалі дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі 13 скліканьня, супрацоўнікі апарату прэзідыума Вярхоўнага Савету, Кабінету Міністраў, навукоўцы Акадэміі навук Беларусі, НДІ і іншых ВНУ краіны, сьпецыялісты Камітэту па зямельных рэсурсах, кіраўнікі гаспадарак, фермеры, прадстаўнікі «Нацыянальнага Банку», ВА «Белгеадэзія», а таксама з шэрагу міжнародных арганізацый (Фонд Сораса, Амерыканская карпарацыя садзеяньня фермерскаму руху за мяжой «Вока»).

**(Працяг на стар.3)**

## «КАЛОЖСКАЕ» ПРАПАЛА. ЧАРГА «СТАРОГА ЗАМКУ»?

Добра вядомая ў краіне марка лідзкага піва «Стары замак» у хуткім часе, напэўна, будзе вымушаная зьняць сваю этыкетку. На ёй завадзкія мастакі намалявалі чамусьці замест лідзкага замку выяву царквы абарончага тыпу ў Мураванцы. Супраць гэтага выступілі настаяцель гэтай парафіі і яе прыхаджане.

Варта нагадаць, што нядаўна такая ж гісторыя была і з «Каложскім» півам гарадзенскага піўзавода, якое пасьля пратэстаў праваслаўных вернікаў і сьвятара Каложы перастала выпускацца.

**В.М.**

## СУДЗІЦЬ БАНКІРАЎ ЗАРАЗ У МОДЗЕ

**На працягу ўсяго гэтага тыдня ў народным судзе Ленінскага раёну Горадні працягваўся допыт сьведкаў у судовай справе, якая пагражае выліцца ва ўзорна-паказальны працэс. На лаўцы падсудных апынуўся былы ўпраўляючы Гарадзенскага аддзяленьня «Віткамбанку», а зараз намесьнік дырэктара фірмы «Пушэ» Віктар Асіпенка.**

У віну яму ставіцца злоўжываньне службовым становішчам, якое вылілася ў нанясеньне банку страты ў памеры 15 мільярдаў 459 мільёнаў 520 тысячаў рублёў. Як гаворыцца ў абвінаваўчым заключэньні, на працягу студзеня-лютага 1995 году сп.Асіпенка выдаў фірмам «Экспрэс-сервіс», «Пакт» і «Бэта», якія ўпраўляліся адным чалавекам, Віктарам Курсам, крэдыты ў памерах, якія значна перавышалі яго паўнамоцтвы. Так, фірма «Пакт» атрымала 1 мільярд 112 мільёнаў рублёў, у той час як упраўляючы аддзяленьня банку самастойна, бяз згоды вышэйшага кіраўніцтва, мог выдаць ня больш ста з невялікім мільёнаў (суме, роўнай у дзень выдачы крэдыту дзесяці тысячам долараў).

«Экспрэс-сервіс» атрымаў у банку 742 мільёны, а «Бэта» - 932 мільёны рублёў. Усе тры фірмы крэдыты не вярнулі, а ў верасьні 1995 году былі прызнаныя банкрутамі. У выніку гэтага, «Віткамбанк» панёс вялізныя страты, але сп.Асіпенка ў банку тады ўжо не працаваў, бо быў звольнены ў сакавіку 1995 году з працы.

Разгляд гэтай крымінальнай справы, узбуджанай у чэрвені мінулага году, пачаўся ў судзе 6 сакавіка. Выслухаўшы абвінавачаньні, Віктар Асіпенка віну сваю не прызнаў.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**9 сакавіка 1996 году ў Менску адбыўся чарговы сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». На сойме былі разгледжаны пытаньні: «Аб пагрозе суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі», «Пра 78-я ўгодкі незалежнасьці БНР», «Пра праблемы Чарнобыля і задачы Фронту».**

Сябры Сойму ахарактарызавалі сітуацыю на Беларусі як стан унутранай акупацыі і параўналі наш час з часам трэцяга разбору Рэчы Паспалітай. Тады пад рулямі расейскіх гарматаў Сойм у Горадні даў згоду на ліквідацыю ўласнай краіны. Сёньня Вярхоўны *Савет здае агенту расейскіх сьпецслужбаў і* стаўленікаў крымінальнага капіталу пазіцыю за пазіцыяй. Без абмеркаваньня зацьверджаны на пасадзе генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В.Капітан. Зацьверджаны і бюджэт на 1996 год, таксама без абмеркаваньня. Як быццам для таго, каб ускласьці ўсю адказнасьць на Лукашэнку, але на самой справе Вярхоўны Савет у выніку гэтага кроку ўзяў усю адказнасьць на сябе, у тым ліку і за тыя мільярды, якія пойдуць у пазабюджэтны прэзідэнцкі фонд і з якога зьнікаюць невядома куды.

Сяргей Навумчык назваў БНФ адзінай сілай, якая пасьлядоўна выступае за абарону інтарэсаў Беларусі. Такую пазіцыю ў рэзкай форме апратэставаў Юры Хадыка, заклікаўшы Фронт да пасьлядоўнай палітыкі супрацоўніцтва з усімі антылукашэнкаўскімі сіламі і пошуку новых саюзьнікаў.

На сойме выступіў намесьнік сакратара ўправы Народнага Руху Украіны Вячаслаў Каваль.

Сойм прыняў заяву «Аб гандлі дзяржаўным суверэнітэтам Беларусі», зварот «Да Дня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка», зварот да Народнага Руху і ўсіх палітычных сілаў Украіны.

**Станіслаў СУДНІК.**

## Да Дня незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка

### Зварот Сойму Беларускага Народнага Фронту

Шаноўныя суайчыньнікі!

Ад душы віншуем вас з вялікім сьвятам - Днём незалежнасьці Беларусі, якое адзначаецца з 1918 году, калі была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Векавую мару беларускага народу - незалежнае і свабоднае дзяржаўнае жыцьцё Беларусі - набліжалі сваім змаганьнем многія пакаленьні нашых продкаў. Мы памятаем вялікіх дзяржаўных дзеячоў старажытнай Беларусі: Усяслава Полацкага і Вітаўта Вялікага, Льва Сапегу і Канстаньціна Астрожскага. Мы схіляем галовы перад памяцьцю змагароў за свабоду і незалежнасьць Беларусі Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Мы называем пайменна герояў БНР і духоўных правадыроў нацыі, якія адстойвалі толькі што адроджаную незалежнасьць перад замахамі суседніх імперскіх драпежнікаў, - Антона Луцкевіча і Янку Купалу, Вацлава Ластоўскага і Кастуся Езавітава, слуцкіх змагароў і ўсіх іншых.

Якімі ж нікчэмнымі выглядаюць на фоне гэтых волатаў духу тыя палітычныя сьпекулянты, што цяпер дарваліся да ўлады ў Беларусі і прадаюць Маскве здабытую працаю і крывёю многіх пакаленьняў беларусаў незалежнасьць нашай краіны. Гэта яны, ненавісьнікі нашага народу і нашай незалежнасьці, давялі краіну да палітычнага і духоўнага крызісу, эканоміку Беларусі да развалу, а большасьць людзей - да жабрацтва.

Ідэалы 25 Сакавіка 1918 г., і абвешчаныя III Устаўною граматаю Беларускай Народнай Рэспублікі, - гэта каштоўнасьці, супольныя для свабодных людзей эўрапейскай цывілізацыі: асноўныя дэмакратычныя свабоды і дзяржаўная незалежнасьць краіны. Сапраўды: без незалежнасьці ня будзе ані свабоды, ані дэмакратыі, ані эканамічнага працьвітаньня.

Сьвята незалежнасьці 25 Сакавіка сёлета будзе днём пратэсту. Гэта пратэст супраць антыдзяржаўнай палітыкі Лукашэнкі, скіраванай на фактычнае зьнішчэньне незалежнага існаваньня краіны, супраць антынароднай эканамічнай палітыкі, супраць патаптаньня дэмакратычных свабодаў і падставовых правоў чалавека.

25 Сакавіка - гэта сьвята ўсіх тых, каму дарагая незалежнасьць і Свабода, хто мае гістарычную памяць і хто гатовы адстойваць будучыню нашай дарагой Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

## Аб гандлі дзяржаўным суверэнітэтам Беларусі

### Заява Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

У канцы лютага гэтага году ў час візіту А.Лукашэнкі ў Маскву перад усім сьветам быў прадэманстраваны цынічны гандаль беларускім суверэнітэтам, нацыянальнымі і эканамічнымі інтарэсамі Беларусі. Кіраўніцтва БНФ у сваёй заяве ўжо на другі дзень пасьля маскоўскіх падзеяў дало афіцыйную ацэнку гэтай палітыцы.

І Лукашэнка, і Ельцын дэманстравалі «яднаньне», маючы кожны свае прыватныя інтарэсы. Ельцын, ажыцьцяўляючы генацыд у Чачні і церпячы там паражэньні, хоча за кошт паглынаньня Беларусі выйграць прэзідэнцкія выбары. Лукашэнка, не зважаючы на парламант і законы, спадзяецца на ўмацаваньне свайго адзінаасобнага рэжыму і праз гвалтоўнае ўвядзеньне падвойнага грамадзянства, спадзяецца на прастол расейскай улады.

Палітычны цынізм падмацаваны пагадненьнем аб так званым «нулявым» варыянце, згодна з якім Лукашэнка дараваў Расеі яе рэальныя запазычанасьці нашай краіне, а Ельцын Беларусі -прапагандысцка-міфічныя. Сьпецыялісты ведаюць, што Беларусь ня мае ніякай дзяржаўнай запазычанасьці перад Расеяй ні па нафце, ні па іншых таварах. Неплацёжаздольныя расейскія прадпрыемствы таксама ня выплацілі Беларусі трыльёны рублёў. Доўг жа Беларусі расейскаму Газпраму ў 910 мільёнаў доляраў патрабуе ўважлівага аналізу. Расея ня плоціць Беларусі больш мільярда доляраў за транзіт і знаходжаньне свайго войска на нашай тэрыторыі, якое павінна было быць выведзена да 1996 году. Рэальны дзяржаўны доўг Расеі нам па кампенсацыі за Чарнобыль складае каля 30 мільярдаў доляраў ЗША.

А.Лукашэнка адзінасобна заявіў, што ўсё гэта даруе Ельцыну. І ўсё гэта дзеля прывідных персьпектываў умацаваньня і пашырэньня сваёй асабістай улады.

Мы ацэньваем заявы і дзеяньні А.Лукашэнкі ў Маскве як авантурныя, як здраду нацыянальным інтарэсам Беларусі. Яны ўтрымліваюць элементы дзяржаўнага злачынства. Чалавек на пасадзе прэзідэнта, які ненавідзіць сваю дзяржаву, беларускую мову, беларускія сімвалы, беларускую культуру і нацыю, гандлюе інтарэсамі Беларусі, стварае для пэўных груп магчымасьці мець крымінальныя даходы. Нядзіўна, што рэжым Лукашэнкі прыступіў да адмаўленьня ад чарнобыльскай праблемы ў нашай чарнобыльскай краіне.

Але якімі б злачыннымі, страшнымі не былі дзеяньні асобы, узурпаваўшай усе правы і ўсю ўладу, існуе Закон, Канстытуцыя, Крымінальны Кодэкс. Закон павінен дзейнічаць абавязкова і ніхто ня можа ўцячы ад адказнасьці за дзяржаўнае злачынства. Мы перакананыя, што час адказнасьці набліжаецца і ня будзе мець тэрміну даўнасьці. Ня можа беларускае грамадзтва, інтэлігенцыя, рабочыя, суды і парламант, служачыя і студэнты, пракуратура і партыі, дэпутаты і міністры, прадстаўнікі юрыспрудэнцыі і медыцыны ўвесь час заставацца сьляпымі, абыякавымі да свайго лёсу, прыніжацца і зьневажаць сваю годнасьць. Краіна ў небясьпецы.

24 сакавіка гэтага году ў гонар 78-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Народным Фронтам ладзіцца мітынг у абарону Канстытуцыі, суверэнітэту, сацыяльнай і нацыянальнай будучыні беларускага народу. Мерапрыемства пачнецца а 12-й гадзіне шэсьцем з плошчы Незалежнасьці. Надыходзіць час рашучага пратэсту. Нельга жыць у зьнявазе, у сораме, у зьдзеке бескультурных людзей з каштоўнасьцяў нацыі. Нельга быць заложнікамі хваравітых натураў, амбіцыяў, папулізму і некампетэнтнасьці. Мы спадзяемся, што Закон, розум і здаровы сэнс скажуць сваё важкае вызначальнае слова.

## Да Народнага Руху і ўсіх палітычных сілаў Украіны

### Зварот Сойму Беларускага Народнага Фронту

Вельмі шаноўныя калегі, сябры, браты!

Зьвяртаемся да вас ў надзвычай цяжкі для Беларусі час. Над нашай Бацькаўшчынай навісла пагроза страты незалежнасьці і разрабаваньня нацыянальных багацьцяў. Краіна апынулася ва ўладзе расейскіх сьпецслужбаў і іхных стаўленікаў. Растаптаныя беларускія нацыянальныя дзяржаўныя сімвалы і вернутыя камуністычныя, разбураецца беларуская школа, забараняюцца беларускія падручнікі, ідуць пад нож беларускія энцыклапедыі. На беларускім тэлебачаньні і радыё ўжо амаль не чуваць беларускай мовы. Прэзідэнт прылюдна ганьбіць беларускую незалежнасьць, мову, гістарычныя сьвятыні.

Разам са зьнішчэньнем усяго беларускага адбываецца інтэнсіўная крыміналізацыя ўлады. Прэзідэнцкія структуры адкрыта захопліваюць дзяржаўную маёмасьць і сродкі бюджэту. Рэформы паралізаваныя, інфраструктура эканомікі Беларусі аддаецца Расеі, і ў нашай краіне пачынае гаспадарыць расейскі капітал. Размова ідзе ўжо нават не пра карупцыю, а пра метадычнае рабаўніцтва краіны ўладаю.

Прэзідэнт Лукашэнка паталагічна ненавідзіць усё беларускае ня толькі з-за адсутнасьці культуры, ня толькі з-за свайго хваравітага стану (што само па сабе няшчасьце), але і таму, што разумее: за абарону нацыянальнай маёмасьці, уласнасьці і нацыянальных інтарэсаў выступаюць перш за ўсё сьвядомыя нацыянальныя сілы.

Дарагія ўкраінцы!

Палітыка Расейскай імперыі была агрэсіўнаю, падступнаю і варожаю нашым народам. Калі імперыі ўдасца захапіць Беларусь, гэта стане першым крокам да захопу Украіны. Не паддавайцеся ні на якія двудушныя маскоўскія ініцыятывы і спробы ўмяшацца ў вашае дзяржаўнае жыцьцё, ні на якія «інтэграцыі». Імперыялістычная дзяржава ня можа быць дэмакратычнаю. «Чудище обло, огромно, стозевно» не зьмянілася за вякі, і нашыя народы ведаюць гэта лепш, чым хто.

Цяпер крывавая маскоўская ўлада вядзе чарговую каланіяльную вайну, зьдзяйсьняе генацыд чачэнскага народу. Злачынствы супраць чалавецтва - спосаб існаваньня імперыі. Тое самае яна здольная рабіць з украінцамі, з усімі і ўсюды - гэтаксама, як рабілі з нашымі народамі ў 20-х, 30-х, 40-х гадах. Няма розьніцы паміж крамлёўскімі бальшавікамі і крамлёўскімі імперыялістамі. Хіба горкі досьвед Чачэніі, Грузіі, Малдовы, каўказскіх народаў, а цяпер і Беларусі не пацьвярджае гэтага?

Беражыце Украіну!

Вольная, незалежная Украіна можа стаць апірышчам свабоды ва Усходняй Эўропе. Ня можа быць заможным і шчасьлівым народ несвабодны, несамастойны на сваёй зямлі. Свабода, незалежная дзяржава, культура - найвялікшыя каштоўнасьці нацыі.

Цяпер, калі Расея намагаецца ажыцьцявіць «ціхую акупацыю» Беларусі, калі ідзе халодная вайна супраць нашай нацыі, усё больш людзей пачынае разумець значэньне нацыянальных каштоўнасьцяў. Беларускі Народны Фронт выступае як нацыянальна-вызвольная сіла. І мы будзем змагацца за нашую незалежнасьць, за ідэалы свабоды і дабра, дэмакратыі і культуры, ведаючы, што ў гэтай сьвятой барацьбе ў беларусаў ёсьць паплечнікі.

Слава вольнай Украіне!

Жыве Беларусь!

## ЧЫМ СКОНЧЫЦЦА НОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ?

**Як і ўсім савецкім людзям 1960 году нараджэньня, аўтару давялося вывучаць гісторыю. Як зараз памятаю, мяне абурыў гладыятар Спартак -ён, бачыш ты, перагарнуў да гары нагамі Рымскую Імперыю. І дзеля чаго? Хацеў зрабіцца рабаўладальнікам разам са сваімі сябрамі. Вось табе, бацэнька М.Джылас, і новы клас. Але нешта мне ніяк не ўдавалася засвоіць гісторыю на цьвёрдую "пяцёрку". Матка мне казала, што гэта так лёгка і так цікава - як казачкі чытаць. Хіба што, аўтар успрымаў гэта занадта літаральна, між тым, як гісторыя - справа сур'ёзная.**

І толькі зараз давялося ўсьвядоміць, наколькі меў рацыю мой каманьдзір узводу, які, прывіваючы нам навыкі вайскова-ўліковай сьпецыяльнасьці, казаў: «Байцы, вучыце цяпер, зразумееце потым». Літаральна нядаўна аўтар зразумеў сэнс падзей кастрычніцкай рэвалюцыі і экстрапаліраваў яго на сучасныя абставіны грамадзкага жыцьця Рэспублікі Беларусь.

Напачатку бальшавікі разьлічвалі на бальшыню ва Устаноўчым Сходзе, аднак прадстаўнікоў іхняй партыі там аказалася ледзь пятая частка. Прышлося зрабіць Устаноўчаму Сходу прапанову, ад якой ён ня мог адмовіцца. Аналагічна наш Пан Прэзідэнт разьлічваў на Вярхоўны Савет, а потым расчаравана зрабіў яму тую ж прапанову.

Спачатку бальшавікі арганізавалі так званую «чырвонагвардзейскую атаку на капітал», і, па словах Леніна, думалі, што па камуністычнаму загаду будзе выконвацца вытворчасьць і размеркаваньне (т.44 с.165). Аднак атака правалілася. Тады Ленін увёў НЭП. Гэтак сама і Пан Прэзідэнт. Калі заводы не запусьціліся самі сабой, а «каляровыя лядоўні» так і засталіся на складах, ён прыняў праграму выйсьця з крызісу, такую ж непасьлядоўна абмежаваную, як і НЭП.

Калі стаўка на кіраваньне дзяржавай кухаркамі і матросамі правалілася, бальшавікі прыцягнулі царскіх «сьпецоў». Так і Пан Прэзідэнт зрабіў апору на наменклатуру, гэтак сама як і бальшавікі, трымаючы яе на кручку. Бальшавікам кіраваць і пераўтвараць грамадзкія дачыненьні перашкаджалі законы і суды, і бальшавікі выкінулі ўсё гэта на сьметнік. І ў нас адбылося тое самае.

Саратнікі бальшавікоў, якія напачатку супрацоўнічалі з імі, потым былі выгнаны з адміністрацыі ўсіх узроўняў. Лёс Захаранкі, Багданкевіча, Фядуты і іншых сьведчыць пра тыя ж тэндэнцыі. Для абгрунтаваньня рэвалюцыйнага тэрору бальшавікі спасылаліся на Маркса і вопыт Французкай рэвалюцыі, у нас - спасылкі на Гітлера і вопыт Трэцяга Рэйху.

Для таго, каб аднавіць эканоміку, бальшавікі запрасілі замежных канцэсіянераў, самыя сквапныя і бессаромныя капіталісты клюнулі і засталіся з носам. Бальшавікі параходамі адпраўлялі ў эміграцыю інтэлектуалаў, у нас за мяжу паступова перамяшчаюцца ня толькі газеты, але ўсё культурнае жыцьцё.

Бальшавікі, якія прэтэндавалі на тое, што яны выяўляюць інтарэсы бальшыні народа, эксплуатавалі гэты народ горш, чым рабаўладальнікі старажытнага Рыма, бо тыя рабоў кармілі, а ў камуністаў народ паміраў з голаду. Падобна на тое, што ў спажываньні харчаваньня беларусы дзесьці ў канцы ўсіх магчымых сьпісаў.

Экспансія бальшавікоў выяўлялася як імкненьне да сусьветнай рэвалюцыі. У нас - панславізм...

Дык што ты, аўтар, хочаш сказаць, што Пан Прэзідэнт - камуніст? Не. Аўтар разважае, як бы гэта сказаць дакладней. Хіба так: пан Лукашэнка робіць рэвалюцыю ў адзіночку.

Чым скончыцца новая рэвалюцыя? Дык вядома, чым - тэрмідорам, рэстаўрацыяй, дэспатыяй. Але пачакаем, яшчэ ня вечар.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## НЕ РАБІ СЁНЬНЯ ТОЕ, ШТО МОЖНА ПЕРАНЕСЬЦІ НА ЗАЎТРА

**3 сакавіка ў Маладэчне адбылася сустрэча лідара Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, дэпутата Вярхоўнага Савету сп.С.Багданкевіча і яго калегі сп.В.Шлындзікава з грамадзкасьцю горада.**

З боку сп.Багданкевіча гучала рэзкая, часам з уласьцівым яму гумарам крытыка палітыкі прэзідэнта і выканаўчай улады. Спроба сарваць сустрэчу і правакацыйныя выкрыкі прадстаўнікоў лукашэнкаўска-камуністычных сіл парываліся вытрымкай і аратарскімі здольнасьцямі Станіслава Антонавіча, які на беспадстаўныя выпады сваіх апанентаў адказваў ім эканамічным лікбезам.

Адказваючы на пытаньне аб неабходнасьці стварэньня на глебе абароны незалежнасьці руху кшталту Фронту Нацыянальнага Выратаваньня сп.Шлыньдзікаў палічыў гэтую справу несвоечасовай.

**Алесь ЦАДКО.**

 









# ЦІ БУДЗЕ ЗАЎТРА Ў НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ?

**Сёньня адпускная (з завода, фабрыкі і г.д.) цана практычна любой прадукуемай рэчы фарміруецца так:**

**а) у сярэднім 27% цаны - кошт матэрыялаў, энерганосьбітаў і іншых матэрыяльных затрат на выпрадукаваньне адзінкі тавару;**

**б) каля 3% - заробак вытворцаў;**

**в) каля 70% - кошт, уключаны ў цану адзінкі тавару дзяржавай у выглядзе падаткаў і збораў.**

Усе гэтыя 70% цаны, выцягнутай з кішэні пакупніка, ідуць «напраcткі» праз падатковыя адлічэньні ў казну дзяржавы. Час зразумець, што цэны на тавары павышаюць не камерсанты ды дзяржаўныя прадпрыемствы, а практычна і амаль выключна сама ж дзяржава праз падаткі, абвяшчаемыя прэзідэнтам, ...які абвінавачвае на чым сьвет стаіць у гэтым жа самым граху камерсантаў! Дзе тут праўда, дзе нахабны падман?

Схадзіце на базар і зразумееце, што тыя прадпрымальнікі і камерсанты, каму ўдаецца завезьці ці выпрадукаваць тавар у абход падаткаў, прадаюць яго значна таньней, чым іх суседзі. І ўвогуле, на базары цэны ніжэйшыя, чым у крамах.

Паважаныя суайчыньнікі! Можа хопіць нам «разьвешваць вушы» і ўважліва слухаць байкі пра курачку-вертыкаль, якая з дня на дзень пачне несьці залатыя яйкі? Нам кажуць: падаткі бяруць дзеля таго, каб была багатай дзяржава, каб яна магла дапамагчы тым, хто жыве ў нястачы. Азірніцеся навокал, успомніце апошнія «дапамогі» дзяржавы: павышэньне коштаў на ўсе віды праезду, пазбаўленьне ўсіх грамадзян усякіх ільгот, у два разы ніжэйшы рост пеньсій у параўнаньні з ростам цэн і коштам жыцьця, амаль поўная адсутнасьць фінансаваньня медыцыны, вытворчасьці лекаў, бясплатнага забесьпячэньня лекамі малазабясьпечаных, рэзкае зьніжэньне фінансаваньня школ, вышэйшых навучальных установ, поўнае матэрыяльнае зьневажаньне навукі і навукоўцаў і г.д. А з другога боку, дзяржаўны бюджэт у 1995 г. разыйшоўся галоўным чынам на фінансаваньне ўладных структур, штатная колькасьць якіх склала: у 1993 г. - 10574 адзінкі; у 1994 г. - 17 038 адзінак; у 1995 г. - 20 586 адзінак.

Доля сродкаў, выдаткаваных на фінансаваньне народнай гаспадаркі ад агульных сродкаў кансалідаванага бюджэту Беларусі, склала: у 1994 годзе - 27%, у 1995 годзе: план - 26%, факт - 21% (астатнія працэнты пайшлі на фінансаваньне сілавых структур).

У 1996 годзе план - 17%!

Як бачыце, дзяржава абірае кожнага з нас праз цэны і падаткі з кожным днём усё болей, а аддае ўсё меней. Куды ідуць «рэкетаваныя» дзяржавай грошы?

Па-першае, на ўмацаваньне сілавых структур, якія прысягаюць ужо не народу, не дзяржаве, а працадаўцу - прэзідэнту. Нядаўна назначаны Камандуючым унутранымі войскаму МУС Юры Сівакоў па беларускаму тэлебачаньню сказаў: «Мы выполним любой приказ президента, -дадаўшы, між іншым, - но не хотелось бы иметь ситуации, когда необходимо будет выводить войска на улицы».

Па-другое, на ўтрыманьне ў краіне за кошт яе грамадзян болей 20 кантрольных службаў з вялізарным штатам. У народзе гэта войска называюць «дзяржаўнымі рэкецірамі». Няўжо трох-пяці такіх службаў недастаткова на нашу невялікую краіну з амаль непрацуючай вытворчасьцю? Чаму народ працы павінен карміць усе гэтыя службы, ды ўсе вертыкалі з гарызанталямі? Калі ўсіх гэтых «семерых с ложкой» і надалей карміць «одному с сошкой», то не адкладваючы трэба ўжо ўводзіць «абмеркаваны» калісьці класікамі марксізма-ленінізма «падатак на паветра» - для кожнага працуючага...

Канешне, усё адносна. Калі гады два таму наш былы сьпікер Шушкевіч стаяў у простым (яшчэ савецкіх часоў) паліто побач з апранутым «з іголачкі» канцлерам Колем, то трошкі крыўдна было за нас - пераможцаў у вайне з немцамі. Але цешыў гонар за сумленнасьць нашага, як мы тады яго ў народзе называлі, «прэзідэнта». Цяпер жа, калі абраны намі прэзідэнт выходзіць на людзі ў вопратцы «ад Кардэна» там, ці «ад Дзіора» і выглядае нічым ня горш за Клінтана ці Ельцына, гуляе з імі ў тэніс на ўласным прэзідэнцкім корце, лятае да іх на ўласным прэзідэнцкім самалёце і гэтак далей, не спакушаны ў вялікай палітыцы беларускі абывацель усё часьцей пытаецца ў суседа побач: «А ці хапае нашаму «бацьку» свайго заробку на ўсе гэтыя ўборы ды падарожжы?». І мабыць у бліжэйшы час наш спачувальны грамадзянін сам прапануе ўвесьці яшчэ адзін падатак - «на ўтрыманьне асобы прэзідэнта». Ва ўсялякім разе, гэта было б больш сумленным, чым тое, за што цяпер ўзяўся прэзідэнт. Фактычна, пад прыкрыцьцём клопату аб нашым навагоднім стале, Аляксандр Рыгоравіч пачаў гандляваць гарэлкай праз сваю фірму «Торгэкспо», папярэдне вызваліўшы яе ад усіх падаткаў.

Дык ужо час запытацца ў абраных намі правадыроў, куды яны нас вядуць, чаму і навошта абіраюць? Час пакінуць у спакоі ўчарашні дзень, ён ужо пражыты, і ніколі нічога заднім розумам не паправіш. Трэба аналізаваць сёньняшні дзень і патрабаваць ад «бацькоўскіх» улад павагі да сябе сёньня, а не абяцанкаў накарміць нас заўтра!

Мы, жыхары Беларусі, толькі тады ня будзем дурнейшым у сьвеце народам, калі будзем адстойваць свае жыцьцёвыя інтарэсы СЁНЬНЯ, паважаць сябе, сваю працу і сваю краіну СЁНЬНЯ, патрабаваць павагі да сябе СЁНЬНЯ! Толькі ў такім выпадку ў нашых дзяцей будзе ЗАЎТРА!

**Франц МАМУЛЬ.**

# ЭКАНАМІЧНАЯ ЗАГАДКА

**Неканкурэнтаздольнасьць беларускіх тавараў на зьнешнім рынку абумоўліваецца іх высокім коштам. Да 25 працэнтаў у гэтым кошце складае кошт энерганосьбітаў. У той час на Захадзе кошт энерганосьбітаў у кошце тавару не перавышае 10 працэнтаў.**

Сёньня самая танная энергія на Беларусі - гэта электраэнергія з Летувы. Мы плацім Летуве 1,82 цэнта за кілават/гадзіну. Беларускія электрастанцыі, якія працуюць на «танным» расейскім газе, даюць энергію коштам каля 3 цэнтаў за кілават/гадзіну. Безумоўна, што іх выгадней зачыніць і купляць усю электраэнергію ў Летуве.

Нашыя прадпрыемствы плацяць за кілават/гадзіну ўжо па 11-12 цэнтаў, г.зн. у 6-7 разоў даражэй. Загадка: куды ідзе розьніца ў 10 цэнтаў? Каму выгадна энергетычнае ўдушэньне ўласных прадпрыемстваў?

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# ЧЫМ БОЛЬШ ЧАЛАВЕК ПАСІЎНЫ, ТЫМ БЮРАКРАТ МАЦНЕЙШЫ

**У N 2 «Народнай газеты» за 4.01.96 г. зьмешчаны здымак фотакарэспандэнта Сяргея Брушко, дзе 85-гадовы дзед Іван з Менска пілуе пень дрэва, таму што няма чым паліць печку. Працаваў раней на чыгунцы. Атрымлівае пеньсію 200 тысяч, даглядае паралізаванага сына. У Беларусі пеньсіянераў 2 мільёны 532 тысячы. Пражытачны мінімум у студзені гэтага году склаў 980 тысяч. За 30 гадоў працоўнага стажу, вайскоўцам - за 25 гадоў бадзяньняў, ужо менш гэтай сумы нельга даваць. Дык куды ж падзеліся 700 тысяч, што недаатрымаў дзед Іван, пеньсіянерка Яўгенія Казлоўская з Бабруйску, Мар'яна Поваль з вёскі Граньдзічы і яе муж?**

Разам лічым:

- 300 мільёнаў доляраў пайшло на замену дзяржаўнай сімволікі;

- мінусуем грошы, што пойдуць на замену сучасных падручнікаў на кнігі савецкага ўзору;

- у 2 разы павялічылася колькасьць чыноўнікаў, у 1994 годзе расходавалася 1,2% бюджэту, а ў 1996 годзе плануецца 3%. У бюджэце 1996 году Упраўленьню справамі прэзідэнта выдзяляецца 250 мільярдаў рублёў;

- за транзіт нафты праз Беларусь мы не атрымліваем 3 мільярды доляраў у год;

- за ўтрыманьне расейскіх вайсковых баз на нашай тэрыторыі таксама не атрымалі ні капейкі;

- Расеі засталася ўся спадчына Савецкага Саюзу: будынкі амбасадаў, нерухомасьць, залаты запас. Куды толькі дзявалася доля Беларусі?

- згодна Указу N 230 ад 22.11.95 г., з «Торгэкспо» зьняты: мытная пошліна, акцызы, падаткі на дабаўленую вартасьць. Грошы пацякуць у іншую кішэню - «сьпецфонд» прэзідэнта, а гэта яшчэ мінус 320 мільёнаў доляраў ЗША;

У 2,5-3 тысячы разоў вырасьлі цэны на прадукты харчаваньня. Вось чаму вы й прыдумалі, Аляксандр Рыгоравіч, паняцьце «рыначны сацыялізм». Пеньсія і зарплата сацыялістычныя, а цэны - капіталістычныя пры сацыялістычнай якасьці;

Чым менш правячая вярхушка траціць на пеньсіі і зарплату, тым больш забірае сабе на прывілеі, так званыя дзяржпатрэбы: самалёт, браніраваны «мэрсэдэс», на ўтрыманьне 1800 супрацоўнікаў прэзідэнцкай аховы. І кожнаму з іх трэба плаціць у месяц не менш, чым 4 мільёны рублёў.

Вось куды пайшлі 700 тысяч, якія недадалі кожнаму беларускаму пеньсіянеру.

**Г.МАСКАЎЧУК.**

# ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ РЭФОРМА АПК БЕЛАРУСІ?

**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

На жаль, праігнаравалі канферэнцыю Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня, абласныя досьведныя станцыі і большая частка навукова-дасьледчых інстытутаў сельскагаспадарчага профілю. Калі б аўтары праграмы праслухалі даклады, дык яны пазьбеглі б многіх памылак. З дакладаў і выступленьняў ўдзельнікаў відаць, што для сельскай гаспадаркі ўсіх постсацыялістычных краін характэрны агульныя тэндэнцыі. Да іх залічаюцца зьмяненьні зямельных адносінаў з перадачай большай часткі сельгасугоддзяў ад 95% (Чэхія) да 80% (Славакія) у прыватную ўласнасьць (акрамя Расеі, Украіны і Беларусі), фармаваньне разнастайнасьці гаспадараньня (індывідуальныя, фермерскія гаспадаркі, кааператывы, акцыянерныя таварыствы, таварыствы з абмежаванай адказнасьцю ды інш.), дзяржаўная падтрымка вытворцаў незалежна ад формаў уласнасьці. Наданьне поўнай свабоды вытворчай дзейнасьці.

Аграрныя рэформы ва ўсіх краінах таксама маюць агульныя падыходы і схему іх правядзеньня. Паўсюль першапачатковым этапам была распрацоўка агульнай канцэпцыі рэформаў, у якой вызначаліся формы ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, уключаючы зямлю, іх суадносіны паміж сабой, парадак набываньня зямлі ва ўласнасьць фізічным і юрыдычным асобам і яе колькасьць, ды іншыя праблемы. Адразу пасьля прыняцьця канцэпцыі стваралася прававая база рэформаў. Для гэтага распрацоўваліся новыя, ці карэктаваліся існуючыя законы і нарматыўныя акты. У Чэхіі, напрыклад, было прынята больш 60 законаў.

Затым, нават паралельна са стварэньнем прававой базы, вялася вялікая падрыхтоўчая праца па зямельнай рэформе. Яна ўключала правядзеньне аб'ектыўнай кадастравай ацэнкі земляў, вызначэньне зямельных плошчаў для дзяржаўных патрэбаў (дзяржлясфонд, запаведнікі, заказьнікі, радовішчы карысных выкапняў, транспартныя камунікацыі, разьвіцьцё населеных пунктаў і інш. Колькасьць земляў, якія падлягаюць вяртаньню былым рэпрэсаваным гаспадарам ці іх нашчадкам, плошчы, якія выдзяляюцца бясплатна ў якасьці долевага фонду гаспадарам калгасаў і дзяржгасаў, а таксама рыначны фонд зямлі. Наступным этапам была рэарганізацыя органаў дзяржаўнага кіраваньня і рэфармаваньня калгасаў і дзяржгасаў. Пры ўдасканаленьні структураў дзяржаўнага кіраваньня аб'ядналіся міністэрствы і камітэты, там дзе яны былі - у адно Міністэрства сельскай, лясной, воднай гаспадаркі і харчаваньня, скарачаліся ўсе органы, непатрэбныя для выкананьня дзяржаўных функцый. Рэфармаваньне гаспадарак зьдзяйсьнялася рознымі спосабамі - ад поўнай ліквідацыі (Эстонія, Летува, Чэхія) да паступовага пераўтварэньня ў рыначныя структуры (Славакія, Малдавія). Пры гэтым дзяржгасы спачатку разьдзяржаўліваліся, а за тым гэтыя калгасы трансфармаваліся ў акцыянерныя таварыствы, аб'яднаньні кааператываў, таварыствы з абмежаванай адказнасьцю, асацыяцыі і г.д. з абавязковым захаваньнем прынцыпаў галоснасьці і добраахвотнасьці выбару формаў гаспадараньня.

Паралельна рэфармавалася крэдытна-фінансавая сістэма, уключаючы арганізацыю іпатэчных зямельных банкаў, стварэньне зямельнага рынку, прыняцьце сацыяльных праграмаў дзяржаўнай падтрымкі сельскай гаспадаркі. Нават у Расеі, дзе аграрная рэформа таксама практычна не пачыналася, у 1995 годзе былі выдзелены датацыі і кампенсацыі ў племяннай жывёлагадоўлі з разьліку 412 тысяч рублёў на адну ўмоўную галаву, у насеньневодзтве - ад 110 тысяч рублёў за 1 тону зернявых каласавых да 7010 тысяч рублёў за тону насеньня цукровых буракоў, вяртаньне гаспадаркам 50% кошту мінеральных угнаеньняў, 30% кошту сродкаў абароны, 30% затратаў на электрычную, цеплавую энергію, прыродны газ ды іншыя віды паліва, якія выкарыстоўваюцца ў цяпліцах, выплату датацый у памеры 1030 тысяч рублёў за тону ільновалакна, вяртаньне 30% кошту закупленых камбікармоў і г.д. Памер датацый і субсідый сельскай гаспадарцы, як правіла, устанаўліваецца фіксаванай доляй ВНП і расходнай часткай дзяржбюджэту.

Важнейшым зьвяном аграрнай рэформы стала сацыяльная абарона жыхароў сяла. У большасьці краін гэтая функцыя перакладзена з рэфармуемых гаспадарак на органы мясцовага самакіраваньня (Эстонія, Латвія, Летува, Славакія і г.д.), якія таксама рэфармаваны.

Улічваючы агульнасьць сельскай гаспадаркі Беларусі ды іншых усходнеэўрапейскіх краін, гэтыя абавязковыя этапы рынкавых рэформаў у аграпрамысловым комплексе прыйдзецца прайсьці і нашай рэспубліцы.

Як паказвае досьвед былых краін сацыялістычнага лагеру - Чэхіі, Славакіі, былых рэспублік Прыбалтыкі і Малдавы - выратаваньне сельскай гаспадаркі - толькі ў глыбокіх, align рознабаковых рэформах, якія ахопліваюць 4 комплексы праблемаў: зямельная рэформа, пераўтварэньне буйных сацыялістычных гаспадарак у рыначныя структуры і рэформа органаў дзяржаўнага кіраваньня, рэфармаваньне крэдытна-фінансавай сістэмы і сацыяльная абарона жыхароў сяла. Асноўнай з іх, ад якой залежаць усе астатнія, зьяўляецца зямельная рэформа. Без прызнаньня права прыватнай уласнасьці на зямлю, без надзяленьня зямлёй жыхароў сяла, немагчыма рэфармаваць калгасы і дзяржгасы. Зусім абсурдна і не адпавядае дзейнаму заканадаўству акцыянернае таварыства, у якім асноўны сродак вытворчасьці - зямля - не належыць яго заснавальніку.

Без эканамічнай ацэнкі зямлі, прызнаньня прыватнай уласнасьці на яе, без стварэньня рынку зямлі ніяк ня вырашыць фінансавыя праблемы ў сельскай гаспадарцы. Бюджэт ня мае дастатковай колькасьці сродкаў на задавальненьне поўнай патрэбы сельскіх вытворцаў. Сёньняшняя крэдытна-банкаўская сістэма зьяўляецца рабаўніцкай. Атрымаць патрэбныя сродкі можна толькі з рынку зямлі. Правераным спосабам крэдытаваньня гаспадарак і фермераў зьяўляецца сістэма іпатэчных банкаў, дзе кожны пад заклад маёмасьці можа атрымаць крэдыт пад невялікія працэнты ў памеры кошту сваёй маёмасьці. Асноўнай закладной маёмасьцю ў сельскай гаспадарцы ўсіх краін сьвету зьяўляецца зямля.

У асабліва цяжкіх умовах аказаліся жыхары сяла, асабліва пеньсійнага ўзросту. Страціўшы сілы і здароўе на грамадзкай працы, яны засталіся без матэрыяльных сродкаў. Але яны стварылі той патэнцыял, які застаўся сёньня ў калгасах і дзяржгасах, іх працай значна павышана натуральная ўрадлівасьць глебаў. Таму няма іншага варыянту сацыяльнай абароны сельскіх жыхароў, акрамя надзяленьня кожнага з іх кавалкам зямлі памерам 3-5 га, якім яны маглі б распарадзіцца па ўласным жаданьні - арганізаваць апрацоўку, здаць у арэнду ці прадаць, і тым самым забясьпечыць сябе нармальны ўзровень жыцьця.

**І.НІКІТЧАНКА,**

**доктар сельгас навук, прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі, нам.старшыні асацыяцыі «Зямельная рэформа».**

 





# УСПАМІНЫ

(Заканчэньне. Пачатак у №№ 9,10)

# АТАМАН ІВАН ПЕРАГУД

### 3. З ПІСЬМАЎ ДА РЭДАКЦЫІ

*Хмара, дружа! Толькі вось у канцы года праз банк нарэшце пераказалі сабраныя грошы на газету, з тае сустрэчы Бразілійскіх і Парагвайскіх сяброў. Пераслалі вам 60 тысячаў крузэйраў...а што вымазаў з нашай карэспандэнцыі, аб сабе, што мы тут цябе добрым словам успаміналі, то дарэмна! Ня будзь, браце, такім сьціплым, а мы хацелі хоць гэтым табе дань аддаць...*

*Трымайся!*

**Перагуд з усёй сябрынай.**

### 4. З ПІСЬМАЎ ДЖУНГЛЯЎ І ПАМПАСАЎ

*Здароў Браце!*

*...Пісьмо хадзіла больш 2-х месяцаў, але дайшло, хоць я ўжо ў тым банку скрынкі ня маю. Усё ж такі гэта найпэўнейшы адрас. Пастараюся адказаць на ўсе запытаньні, хоць ужо рука дрыжыць, бо скарэла ад працы і старасьці, што сагнуць не магу. Мне ж ужо 80 мінула. Вы там спраўце мае каракулі, бо я па нашаму пісаць не навучыўся і выкіньце тое, што ўважаеце друкаваць непатрэбнае...*

*Усе амаль нашыя дружбакі ўжо паўміралі. Рэдка хто яшчэ жыве з тых, што тады пераехалі ў Бразілію. Маладзейшыя потым перасяліліся ў Парагвай, дзе мелі добрую працу, некаторыя ў Аргентыну, але там было цэлы час неспакойна, бо гэтая бандытня чырвоная кідала бомбы і страляла людзей нават у Буэнас Айрас, пакуль іх ваенныя не прысьмірылі. Некаторыя паехалі ў Балівію. Трымаліся мы разам, пакуль жыў Харэўскі, ён добры быў каманьдзір. Пры ім у Порта Алегра была і нашая ветэранская арганізацыя. Па сьмерці ейў Перагуд, а па яго сьмерці ўсё замерла. Жонка Перагуда мясцовая і зусім з намі ня зналася і не гаварыла. Сяголеньня, калі яшчэ хто і жыў, дык зарос у іхнае, і нават калі сустрэнешся з кім, дык ламае язык, больш слоў мясцовых, чым нашых. Сілюк даўно памёр. І Сілівончык, і Гарывада, і Струк. У Аргентыне - Кулак, наш лясьнічы Ігнатаў, Перавалоцкі. Некалькі маладзейшых пажаніліся на нашых баптыстах і жылі ва Фраме. Карповіч стаў баптыстам і яшчэ жыве. Казаў, што ня можа пераслаць грошы, бо Аргентына не пушчае за граніцу. У Парагваі, наколькі ведаю, памёр Курэц, Сувой, Гучок і многія іншыя. Тамашэвіч быў у Балівіі, меў краму, ажаніўся з Кечувай. Як быў уладыка Афанасій, дык як прыязджалі туды, ён не адмаўляў начоўкі і прытулішча нашым, хоць ягоныя падручаныя ўсе пярэкруты нашага роду. Казалі мне аб сыне таго баранавіцкага Цяслоўскага, што палякам служыў. Сын тут круціўся таксама каля палякаў, ходзіць у польскі касьцёл і піша ў іхныя газеты. У Берысе яшчэ астаткі перадваенных нашых старых эміграантаў, а больш іхныя сыны трымаюцца беларушчыны. Праўда, гавораць напалову па-беларуску, а напалову паруску, але ў гэтым сваім клубе даюць часамі беларускія танцы і песьні побач рускіх і нават выходзяць на парады ў беларускай вопратцы, аднак усе яны дурныя камуністы, бо кажуць, там воля для беларусаў. Сустрэўся і з прафесарам Дакіневічам. Ён тут быў Палякам і стаў мастаком... Ня ведаю, хто яшчэ жывы ў Балівіі. Не перапісваемся. Ня ведаю нічога і аб Краі. Як хіба ведаеце, у нас была пастанова не пісаць туды да бацькоў, каб не рабіць ім бяды, ды не навесьці на наш след чэкістаў, якія за намі ахвоціліся і ў Германіі і па-за ёй. Некаторыя тут пазьмянялі свае імёны на мясцовыя, дык і не пазнаеш, што пад ім. Дзеці звычайна не гавораць па-нашаму і нават не разумеюць. Але некаторыя, як у Аргентыне, пасканчалі унівэрсітэты і маюцца нягорш. Пару ў Курытыбе ажаніліся з палячкамі і проста спалячыліся. Такім чынам, з тае соткі, якія тады выехалі, засталося ў жывых хіба з пяцёра, мо на некалькі больш, і ўсе ўжо слабыя .старэчы. Перадайце прывітаньне Вірку, яго радак Царук, той, які быў у Перагудавым атрадзе, памёр у Балівіі, падобна меў жонку індыянку, але больш валачыўся па дзікіх месцах, як ваш Таўпека, аб якім Вы ўспомнілі, страляючы зьвера.*

*Вось хіба адпісаў вам на ўсё. Дык жывіце здаровы!*

**Сьцяпан Гукалюк.**

## АДПЛАТА НЕПАЗЬБЕЖНА

Шмат мракабесаў пакінулі свае чорныя сьляды на целе беларускага народу. Адзін з іх - Барыс Давыдавіч Берман. Знаходзячыся на пасадзе Наркома Унутраных Спраў БССР, зьяўляючыся камісарам Дзяржаўнай Бясьпекі трэцяга рангу (сакавік 1937 г. – травень 1938 г.), Берман зьнішчыў (фізічна) звыш 100 тысячаў чалавек. Такога шырокага размаху рэпрэсіяў карныя ворганамі рэспублікі гэты палач дасягнуў шляхам незаконных арыштаў, пытак, фальсіфікацыяй крымінальных спраў і дасканалай тэхналогіяй масавых расстрэлаў (урочышча Курапаты і т.п.) За гэта яго ўзнагародзілі Ордэнам Леніна, але кроў людзкая не вадзіца... 22 лютага 1939 году гэтага садыста-злачынцу N 1 прыгаварылі да вышэйшай меры пакараньня - расстрэлу. У той самы дзень прыгавор быў выкананы.

Вось як апісвае ў сваіх успамінах «Как я умер» вядомы савецкі выведчык Дзьмітры Быстралётаў (ведаў 22 мовы) сустрэчу ў Лефортаўскай турме з наркомам Унутраных спраў Беларусі А.Наседкіным: «Аднойчы ноччу дзьверы адчыніліся і ў камеры зьявіўся вельмі кашчавы мужчына нявызначанага ўзросту са змучаным хударлявым тварам.

- Аляксей Іванавіч Наседкін, - прадставіўся ён, паваліўшыся на ложак. З цяжкасьцю загаварыў. - У апошні час я быў наркомам Унутраных спраў Беларусі... зьмяніў там Бермана. Берман ужо расстраляны. Мая справа таксама скончана. Хутка расстраляюць і мяне... Бермана я ведаў па Берліну... У Менску ён быў сапраўдным д'яблам, які вырваўся з пекла. Ён зьнішчыў усіх лепшых камуністаў рэспублікі, савецкі апарат. Зьнічтожыў цьвет беларускай інтэлігенцыі. Рупліва вышукваў, знаходзіў і забіваў усіх вызначаўшыхся розумам альбо адданасьцю людзей з працоўнага народу - стаханаўцаў на заводах, старшыняў у калгасах, лепшых брыгадзіраў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, мастакоў. 80 (!) тысячаў нявінных ахвяраў... Гара трупаў... - (Нават Наседкін ня ведаў дакладных маштабаў злачынстваў свайго папярэдніка).

Затым яшчэ адна злавесная фігура з гэтай абоймы нягоднікаў кіравала доўгі час - больш 13 гадоў - гэтым сатанінскім балям на пасадзе начальніка карных ворганаў - «МВД-МГБ» БССР. Гэта малавядомы цяпер большасьці людзей таварыш Цанава, якога сьледам за ягоным патронам Л.Берыяй таксама пусьцілі ў расход, як сапраўднага ворага народу.

Вось такая гісторыя камунізацыі краіны Саветаў таго «слаўтага» перыяду. Няўжо гэтыя прыклады ня стануць урокам для аматараў новых эксперыментаў над народам?

**Алесь ШУСТОЎСКІ, г.Барысаў.**

## ЭПІЛОГ

СЬВ. ПАМ.

### АТАМАН ІВАН ПЕРАГУД:

Удзельнік проціпольскай партызанкі БНР 1921-1925 г.г. Атаман Партызанскай Дружыны Палескай Паўстанцкай акцыі дзеля ўтварэньня Заходнебеларускай Рэспублікі 1-16 верасьня 1939 г.

Атаман атраду Беларускай Народнай Партызанкі 1941-1946 г.г. Старшыня Саюзу былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленьне Беларусі на Паўднёвай Амерыцы.

Памёр маючы 86 гадоў у Бэлё Гарызонтэ (Бразілія). Аб чым з глыбокім сумам паведамляе камандаваньне СБУЗБВБ.

### ПАМЁР АТАМАН (НЕКРАЛОГ)

Сумная вестка даляцела з Бразіліі: атаман Іван Перагуд памёр! Памёр удзельнік збройнага беларускага рэзыстансу супраць польскіх, гітлераўскіх і савецкіх акупантаў у абароне права беларускага народу да свае незалежнасьці.

Іван Перагуд паходзіў з Піншчыны і яшчэ маладым дзецюком ўліўся ў збройную барацьбу ў 1921 годзе супраць польскіх легіёнаў Пілсудзкага, належачы да атраду Мухі, які стыхійна стварыўся на заходніх беларускіх землях. Калі гэты атрад подступам захапілі чэкісты (Арлоўскі і супольнікі ) і падпарадкавалі яго камуністычнаму штабу, а самога атамана Муху абезуладзілі, Іван Перагуд з некалькімі сябрамі ўцякае з-пад камуністычна-чакістоўскай каманды і далучаецца да дзеючага па Палесьсі атраду нашай патрыятычнай партызанкі пад камандай Харэўскага, які разам з дзесяткам іншых нашых атрадаў, як атрады атаманаў Шаршня, Рудага, Іскры, Чорта і іншых, дзеялі як 5-я група Войскаў (партызанскіх) БНР, павязаныя праз камандзіра Разумовіча з Урадам БНР у Коўні, а пасьля павароту Разумовіча ў Літву - самастойна.

Ад 1926 году, па ліквідацыі нашай партызанкі, перахоўваецца пад чужым імем на Валыні разам з атаманам Харэўскім. Прымае ўдзел у патайной Грамадаўскай Канферэнцыі на Палесьсі, дзе пастаноўлена выступіць збройна супраць палякаў на выпадак вайны з Нямеччынай, каб утварыць сваю Беларускую Заходнюю Рэспубліку.

1-га верасьня 1939 году, з выбухам вайны атаман Перагуд ужо ў лесе камандуе вялікім атрадам нашай партызанкі на Драгічыншчыне. Выступ Савецкага Саюзу і захоп ім Пінску крыжуе планы нашай змовы аб утварэньні ЗБР. Каманьдзір партызанскіх атрадаў Тарасюк гіне пры раззбройваньні палякаў у пярэдадзень выступу Савецкай Арміі. Ягоны заступнік - ат.Харэўскі, на вестку аб пераходзе граніцы Савецкай Арміяй, загадвае сваім адыходзіць у лясы і балоты, а потым даў загад разыйсьціся цішком па хатах. Аднак ня ўсе гэта выканалі. Частка атрадаў, складзеная з былых камсамольцаў і кіраваная маладымі з групы Тарасюка, былога камуністычнага дзеяча з Берасьцейшчыны, пастанавіла не ўкрывацца, а выявіцца як проціпольская партызанка перад новымі акупантамі, маўляў, мы ж былі толькі супраць палякаў. У выніку іх параззбройвалі і бальшыню паарыштоўвалі ды асудзілі на канцэнтрацыйныя лагеры, а каманьдзіраў атрадаў парасстрэльвалі за «самавольныя дзеяньні» і як «нямецкіх агентаў».

З выбухам гітлераўска-савецкай вайны ат.Перагуд зноў творыць свой партызанскі атрад на Марачаншчыне, дзеючы пасьля аж пад Ратнам, Жабінкай і Драгічынам. Бярэ ўдзел у Партызанскай Канферэнцыі пад Целяханамі, дзе быў створаны Штаб Беларускай Народнай Партызанкі з палк. І.Шаньком, як начальнікам Штабу і ат.Харэўскім, як ягоным намесьнікам.

Пасьля амаль поўнай ліквідацыі нашай Беларускай партызанкі дэсантамі чэкістоўскіх дыверсантаў, толькі атрад ат.Перагуда, ды атрад ат.Харэўскага, які дзеяў у трыкуце Высоцк, Дубровіца, Кухоцкая Воля, засталіся цэлымі і з захопам гэтага абшару Савецкай Арміяй перакінуліся аж у Аўгустоўскую Пушчу, дзе дзеялі аж да 1946 году, баронячы, між іншым, мясцовыя беларускія вёскі перад нацыяналістычнымі польскімі бандамі, што вырэзвалі беларусаў Беласточчыны, выганяючы іх да Савецкага Саюзу. Мясцовыя беларусы і дапамагалі ім пераехаць праз Польшчу ды перайсьці ў Нямеччыну, аж на заходні бок.

Чуючыся ў небясьпецы ад камуністычных людаловаў, бальшыня з іх разам з ат.Перагудам і ат.Харэўскім апынулася ў Паўднёвай Амерыцы.

Па сьмерці ат.Харэўскага, ат.Іван Перагуд быў апошні (па-за С.Хмарай у Канадзе) з жывых, хто яшчэ з 20-х гадоў прымаў дзейны ўдзел, як адзін з каманьдзіраў атрадаў нашага збройнага рэзыстансу супраць акупантаў Беларусі.

**Васіль Вір.**

### КРЫНІЦЫ:


Успаміны:

1. Атаман Муха і савецкія хвальшавальнікі //Беларускі Голас (Таронта), N 240, студзень 1976 г.

2. Лошыца //Б.Г., N 289, студзень 1981 г.

3. Сьцяпан Гугель (некралог) //Б.Г., N 295, верасень 1981 г.

4. Партызанская арганізацыя «Зялёнага Дуба» //Б.Г., N 245, чэрвень 1976 г.

5. Крывавыя ўгодкі //Б.Г., N 258, кастрычнік 1977 г.

6. Дзе гінулі мухаўцы //Б.Г., N 277, ліпень 1979 г.

7. Увага! Памылка!.. //Б.Г., N 267, жнівень 1978 г.

Дакументы і лісты:

1. Саюз Былых Удзельнікаў... //Б.Г., N 261-262, студзень-люты 1978 г.

2. Саракавыя ўгодкі... //Б.Г., N 303, верасень 1982 г.

3. З пісьмаў да рэдакцыі //Б.Г., N 307, люты 1983 г.

4. З пісьмаў з джунгляў і пампасаў // Б.Г., N 342, сакавік 1988 г.

Эпілог:

1. Сьв. пам. атаман Іван Перагуд (некралог) //Б.Г., N 315, травень 1984 г.

2. Васіль Вір. Памёр атаман //Б.Г., N315, 1984 г.


### НЕАБХОДНЫ КАМЕНТАР

Газету «Беларускі Голас» выдаваў у Канадзе Сяргей Сіняк (Хмара), ведамы ў партызанцы БНР пачатку 20-х гадоў як атаман Іскра. Атаман Якуб Харэўскі загінуў у аўтакатастрофе ў Бразіліі ў красавіку 1968 году. Праўдападобна, што тут не абыйшлося без агентаў КДБ. Успаміны І.Перагуда «Партызанская Дзейнасьць», як і архіў С.Хмары, верагодна, знаходзяцца ў адным з канадзкіх архіваў.

**Ян ВЕЖАН.**

